I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Снежань 2014

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну

## Што дэпутаты ўкраінскага паходжаньня думаюць пра беларускую мову?




стар. 2

**Як зь беларускай мовай у БАТЭ і менскага «Дынама»?**

стар. 4

**За наўмыснае заражэньне ВІЧ рэчыцкай прастытутцы пагражае да 3 гадоў**

стар. 7

**У Рэчыцы расіец спрабаваў забіць сужыцельку**

стар. 8

# Што дэпутаты ўкраінскага паходжаньня думаюць пра беларускую мову?

***У адным з папярэдніх допісаў я распавядаў пра тое, што дэпутаты беларускага парлямэнту расейскага паходжаньня думаюць пра беларускую мову.***

Сёньня прыйшоў час распавесьці, што думаюць дэпутаты, якія нарадзіліся ва Ўкраіне. Такіх дэпутатаў у нашым парлямэнце чатыры. Цікава параўнаць іх адказы з адказамі дэпутатаў расейскага паходжаньня. Магчыма, яны вызначацца больш паважным стаўленьнем да беларускай культуры?

З шасьці дэпутатаў, якія прадстаўляюць Гомель у Палаце прадстаўнікоў, два маюць украінскае паходжаньне, а адзін зь іх у 2012 годзе быў маім супернікам на парлямэнцкіх выбарах. Зь яго і пачнём.

*Міхаіл Пачынак*

Дэпутат ад Гомельскай-Савецкай акругі № 34 Міхаіл Пачынак паходзіць з Заходняй Украіны. Ён нарадзіўся ў сяле Ныркаў Заляшчынскага раёну Цярнопальскай вобласьці. Вышэйшую адукацыю атрымліваў у сябе на радзіме, як бы сказала расейская прапаганда, у «бандэраўскай сталіцы» Ўкраіны. Міхаіл Пачынак скончыў Львоўскі політэхнічны інстытут.

Завочнае знаёмства зь ім у мяне адбылося ў 2012 годзе, калі ён, як і я, вылучаўся кандыдатам у дэпутаты. Запытацца ў Міхаіла наконт таго, як ён ставіцца да беларускай мовы, падчас выбараў не атрымалася — удзельнічаць у тэледэбатах ён не пажадаў. Непублічны, відаць, чалавек.

Тым ня менш падчас выбараў у дзяржаўнай раённай газэце Гомеля пад трывіяльнай назвай «Савецкі раён» ён заявіў, што «лічыць, што ўсім, хто будзе абраны ў парлямэнт, трэба як мага больш раіцца з выбарнікамі. Іх думка павінна ня проста ўлічвацца, а мець першачарговае значэньне». І я б лепей не сказаў, таму, у сваю чаргу, у тым жа нумары «Савецкага раёну» адзначыў, што «стаўлю мэтай на заканадаўчым узроўні дамагацца рэальнага раўнапраўя беларускай і рускай моваў».




Тады ніводзін незалежны кандыдат у парлямэнт ня трапіў, а праўладныя кандыдаты атрымалі «фэерычныя перамогі». Міхаілу Пачынку тады афіцыйна напісалі 73%, а мне — 5%. Іншым двум кандыдатам — яшчэ менш.

Успомніўшы словы Міхаіла Пачынка, што «думка выбарнікаў павінна ня проста ўлічвацца, а мець першачарговае значэньне», я зьвярнуўся да дэпутата з прапановай ініцыяваць зьмены ў закон «Аб мовах», калі ўжо сам не магу гэтага зрабіць.

І вось які адказ я атрымаў:

«Уважліва вывучыў прапанаваныя Вамі зьмены ў Закон „Аб мовах“, мэта якіх — папулярызацыя і разьвіцьцё беларускай мовы. Цалкам падтрымліваю Ваша жаданьне больш шырока выкарыстоўваць беларускую мову як сродак зносін у Рэспубліцы Беларусь, аднак перакананы, што публікацыя розных дзяржаўных актаў, афіцыйных дакумэнтаў, тэхнічнай, праектнай і іншай дакумэнтацыі адначасова на дзьвюх мовах жаданага выніку не прынясе, а толькі павялічыць аб'ём дакумэнтаабароту».

Тут бы я адзначыў, што якраз вышэйпералічаныя галіны і патрабуюць першачарговага рэфармаваньня і дубляваньня справаводзтва на дзьвюх мовах, бо гэта тыя сфэры, зь якімі сутыкаесься штодня. Адсутнасьць афіцыйнага перакладу дзяржаўнага акту на беларускую мову пазбаўляе магчымасьці выкарыстоўваць тэрміналёгію. Напрыклад, у грамадзянскім працэсе тое ж «исковое заявление» Юрась Бушлякоў, аўтар «Жывой

мовы», прапануе называць «пазоўны ліст». Але без афіцыйнага перакладу ўжываньне гэтага тэрміну будзе ня толькі некарэктным, але і выкліча розначытаньні, што будзе наўпрост адбівацца на выніках разгляду справы.

Далей Міхаіл Пачынак працягвае:

«Дзейнае заканадаўства не абмяжоўвае права карыстаньня грамадзянамі той ці іншай дзяржаўнай мовай і не дае перавагі адной мовы перад іншай. Для больш шырокага выкарыстаньня беларускай мовы неабходна, на мой погляд, большае ўзьдзеяньне эліты нашага грамадзтва на сродкі масавай інфармацыі, арганізацыі культуры і адукацыі, шараговых грамадзян па яго выкарыстаньні, а таксама самім ім карыстацца. Заканадаўства гэта дазваляе без унясеньня прапанаваных Вамі зьмяненьняў у закон «Аб мовах».

Адкінуўшы тое, што Міхаіл блытаецца ў вызначэньні роду слова «мова», якое, як мы ведаем, мае жаночы род, магу ў гэтым выпадку з Пачынком пагадзіцца. Слушна заўважана, што ад нашай актыўнасьці і нашага прыкладу вельмі шмат залежыць. Думаю, каб не перабраўся дэпутат у Беларусь, а заставаўся б ва Ўкраіне, быў бы цяпер паплечнікам Парашэнкі ды ініцыяваў пабудову муру на мяжы з Расеяй. Пакуль гэта толькі домыслы, тым ня менш хочацца спадзявацца, што пры пагрозе незалежнасьці і сувэрэнітэту Беларусі Пачынак будзе на баку беларускага народу.

Другі дэпутат-«украінец», які прадстаўляе Гомель у Палаце прадстаўнікоў, — *Віктар Фесак* ад Гомельскай-Юбілейнай акругі № 31, які нарадзіўся ў г. п. Срэбнае Чарнігаўскай вобласьці і скончыў Гомельскі дзяржаўны ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці «Руская мова і літаратура», а да таго ж — філязофскі факультэт Унівэрсытэту марксізму-ленінізму Гомельскага абкаму КПБ і Санкт-Пецярбурскі дзяржаўны ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці «Сацыяльная псыхалёгія ў муніцыпальных службах». У дэпутацтва Фесак прыйшоў з пасады дырэктара адной з гомельскіх школаў, а цяпер займае ў парлямэнце пасаду намесьніка старшыні Сталай камісіі па міжнародных справах.

Вось што адказаў Фесак на мой зварот (артаграфія захаваная):

«Узнімаць пытанне аб мовах несвоечасова. Патрабуецца дэталёвае вывучэнне пытання, неабходна загадзя прадугледзіць у бюджэце выдаткі на гэтыя мэты, у тым ліку на правядзенне агульнарэспубліканскага рэферэндума (вырашае большасць насельніцтва). Дарэчы, што тычыцца закона „Аб мовах“, то, як Вы памятаеце, раней як раз на рэферэндуме большасць насельніцтва рэспублікі выказалася за двухмоўе. У адпаведнасці з ім ніхто не забараняе, на якой мове сення размаўляць, весці перагаворы, пісаць лісты, а таксама друкаваць перыядычныя выданні, аб'явы, вырабляць розныя шыльды, весці справаводства і гэтак далей. Прызнальны Вам за актыўную жыццёвую пазіцыю».

Прагноз на вырашэньне моўнай праблемы, калі зыходзіць з пазыцыі Фесака, несуцяшальны. Асабліва насьцярожвае выраз «Узнімаць пытанне аб мовах несвоечасова». Цікава, калі ўзьнімаць пытаньне будзе своечасова? Калі расейскія танкі зоймуць Гомельскую вобласьць, а гомельскія расейскамоўныя гопнікі ўздымуць над будынкам Гомельскага аблвыканкаму сьцяг «Гомельскай Народнай Рэспублікі»? Тады ўжо пэўна ўздымаць моўнае пытаньне будзе несвоечасова. Але, магчыма, у марксісцка-ленінскага філёзафа іншы погляд на гэтую праблему. Зрэшты, мяркуючы па шыльдзе гомельскай школы, дзе кіраваў Віктар Фесак, свае карані ён памятае, бо яна мае надпіс і па-ўкраінску.

Хочацца верыць, што Віктар не жадае Беларусі ўкраінскага лёсу і прыкладзе намаганьні для разьвіцьця беларускай мовы і культуры. І для гэтага ніякіх рэфэрэндумаў праводзіць ня трэба, дастаткова толькі зьменаў у закон «Аб мовах», ініцыяваць якія ён мае поўнае права.

*Валянціна Жураўская*

Яшчэ адзін дэпутат украінскага паходжаньня — Валянціна Жураўская абраная ад Матусевіцкай акругі № 103. Нарадзілася сп. Жураўская ў горадзе Шахтарску Данецкай вобласьці, адбывае другую дэпутацкую кадэнцыю. У парлямэнце яна намесьніца старшыні Сталай камісіі па дзяржаўным будаваньні, мясцовым самакіраваньні і рэглямэнце.

Вось яе пазыцыя:

«Выкладзеныя ў Вашым лісьце прапановы аб унясеньні зьмяненьняў у закон „Аб мовах“ прывядуць да значнага павелічэньня аб'ёму дакумэнтаабароту і ўскладненьня парадку выкарыстаньня дзяржаўных моваў, што, на мой погляд, зьяўляецца немэтазгодным».

Тут яна цалкам салідарызавалася са сваімі калегамі расейскага паходжаньня і некаторымі іншымі дэпутатамі. Цікава, на чыім баку была б Жураўская, калі б не пакінула Данецкую вобласьць?

Падсумоўваючы, можна казаць, што ў цэлым пазыцыя дэпутатаў украінскага паходжаньня ў пытаньні разьвіцьця і падтрымкі беларускай мовы і культуры не адрозьніваецца ад пазыцыі дэпутатаў расейскага паходжаньня.

Да іншых дэпутатаў вернемся ў наступных допісах.

*Ігар Случак*

# Як зь беларускай мовай у БАТЭ і менскага «Дынама»?

## ГумНо СПАРТЫУНАЕ

***Ня так даўно мы даведаліся, як выкарыстоўваецца беларуская мова ў хакейным «Дынама-Мінск» і баскетбольным клюбе «Цмокі-Мінск», якія прадстаўляюць Беларусь на міжнародных чэмпіянатах. Прыемна, што ў названых клюбах сытуацыя зь беларускай мовай у цэлым добрая.***

Сёньня — аб футбольных клюбах. Беларусь на міжнародных турнірах прадстаўляюць дзьве каманды. У групавой стадыі Лігі чэмпіёнаў змагаецца барысаўскі «БАТЭ», а ў ніжэйшай па рангу Лізе Эўропы — менскае «Дынама».

*Футбольны клюб «БАТЭ» (Барысаў)*

Шматразовы чэмпіён Беларусі, флягман беларускага футболу «БАТЭ» сталы ўдзельнік групавой стадыі Лігі чэмпіёнаў на роўных змагаецца зь вядучымі эўрапейскімі клюбамі, перамагае наймацнейшыя зь іх. Калі запытацца ў замежніка, што ён ведае аб Беларусі, то да традыцыйнага набору «Чарнобыль-Лукашэнка-Прыгожыя дзяўчаты» абавязкова будзе дададзена «БАТЭ-Барысаў».



А як у вядучай футбольнай каманды краіны зь беларускай мовай?

Першы афіцыйны кантакт з барысаўскім клюбам у мяне адбыўся ў лютым 2013. Тады намесьніца дэпартамэнту разьвіцьця ФК «БАТЭ», былы гулец беларускай нацыянальнай зборнай па баскетболе Натальля Марчанка адказала наступнае:

«Дзякуй за Ваш ліст, за любоў да роднай мовы і неабыякавасьць да фармаваньня і разьвіцьця патрыятычных пачуцьцяў у аматараў беларускага футболу, якія мы, у сваю чаргу, падзяляем.

У цяперашні час пытаньне аб правядзеньні мерапрыемстваў, накіраваных на папулярызацыю беларускай мовы сярод заўзятараў ФК «БАТЭ» (у прыватнасьці, беларускамоўныя прозьвішчы на спартыўнай форме футбалістаў, гукавое суправаджэньне падчас правядзеньня матчаў на стадыёне на беларускай мове, выкарыстаньне беларускай мовы ў друкаванай прадукцыі ФК «БАТЭ»), знаходзіцца ў стадыі разгляду. У бліжэйшы час плянуецца правесьці кансультацыі з гульцамі і трэнэрскім штабам, а таксама апытаньні сярод удзельнікаў Клюбу заўзятараў БАТЭ, уладальнікаў сэзонных абанэмэнтаў і прадстаўнікоў фан-сэктару. Магчыма, у новым сэзоне будуць прынятыя захады, накіраваныя на больш актыўнае выкарыстаньне роднай мовы ў сфэры беларускага футболу.

У мэтах дадатковага стымуляваньня працэсу папулярызацыі роднай мовы ў беларускім футбольным чэмпіянаце, рэкамэндуем Вам таксама зьвярнуцца з прапановай аб правядзеньні ўзгаданых у Вашым лісьце мерапрыемстваў у Асацыяцыю «Беларуская фэдэрацыя футбола».

Праз год, у сакавіку 2014, Натальля Марчанка зноў паведаміла аб пазыцыі «БАТЭ» па беларускай мове. Адказ быў амаль на 100% ідэнтычны папярэдняму, толькі адрозьніваўся тым, што, як паведаміла Марчанка, «у гэтым годзе было прынята рашэньне не выкарыстоўваць беларускамоўныя прозьвішчы на спартыўнай форме футбалістаў», а таксама кола людзей, зь якімі «у бліжэйшы час плянуецца правесьці кансультацыі» па моўным пытаньні, пашырылася. Зараз гэта пытанне было вынесена на абмеркаваньне ня толькі «з гульцамі і трэнэрскім штабам» ды іншымі, як гэта было ў 2013 годзе, але і з «кіраўніцтвам стадыёна».

Адным словам, кансультацыяў і абмеркаваньняў стала яшчэ больш, а выніку — як не было, так і няма — беларуская мова ў «БАТЭ» выкарыстоўвацца не пачала.

Яшчэ ліст адрозьніваўся блянкам і подпісам — калі ў 2013 годзе эмблема барысаўскага клюбу зорачак ня мела зусім, хоць і мела права на адну (кож-

ная зорачка азначае 5 чэмпіёнстваў у нацыянальным чэмпіянаце), то ўжо ў 2014 годзе займела адразу дзьве.

Сапраўды, чаго саромецца дасягненьняў? Гэта ж ня беларуская мова, якая патрабуе бясконцых кансультацыяў, абмеркаваньняў і нарадаў. Што да подпісу Марчанкі, то я не графоляг, але падпісвалася яна ў 2013 і 2014 годзе зусім па-рознаму. Чаму — ня ведаю.

Я б параіў БАТЭ вырашаць моўнае пытаньне як найхутчэй. У тым самым данецкім «Шахтары», якому «БАТЭ» прагуляла з разгромным лікам, квітнее ўкраінская мова. Цяпер украінскі клюб вымушаны праводзіць свае гульні ў Львове.

Што да зваротаў да АБФФ з прапановай распачаць у беларускім футболе беларусізацыю, гэта прапанова слушная і магла б зьмяніць моўную сытуацыю ў беларускім футболе кардынальна. Зь іншага боку, гэта вельмі дрэнная беларуская звычка, што разьвілася ў беларусаў за савецкі час і гістарычна нам не ўласьцівая, гэта глядзець у рот начальству, чакаць загаду зьверху, баяцца браць на сябе адказнасьць. Я пераглядзеў паперы АБФФ — усе яны не забараняюць, а гэта значыць, дазваляюць выкарыстоўваць беларускую мову і прапагандаваць беларускую культуру у любых маштабах. Сам рэбрэндынг лягатыпу Асацыяцыі сьведчыць аб гэтым — замест «лётаючай талеркі» ім стаў беларускі зубр. Прыклад ФК «Гомель» і ФК «Белшына» сьведчаць, што для разьвіцьця беларускай мовы ніякіх дадатковых загадаў, папер і іншых хваробаў нашага часу не патрэбна.

Сытуацыя пачала лепшаць у Барысаве ў кастрычніку 2014 года. Тады на мой запыт адказаў генэральны дырэктар ФК «БАТЭ» Міхаіл Дземянцэвіч.

«Шаноўны Ігар! У першую чаргу дзякуем Вам за пажаданні. Спадзяемся і далей радаваць Вас выдатнымі вынікамі і ў нацыянальным першынстве, і ў Кубку Беларусі, і ў Лізе чэмпіёнаў УЕФА.

Што тычыцца Вашых прапаноў, то мы ўжо даўно думаем над аптымальным варыянтам выкарыстаньня беларускай мовы ў дзейнасьці клюбу. На гэты момант мы не прыйшлі да адзінага меркаваньня і стапрацэнтнага адказу на моўнае пытаньне. Паколькі сэзон-2014 блізкі да завяршэньня, хутчэй за ўсё, мы вернемся да разважаньняў на гэты конт узімку».

Тое, што над вырашэньнем моўнага пытаньня ў клюбе думаюць даўно, я ўжо зразумеў па перапісцы з Марчанкай. Але хочацца пабачыць вынікі. Для пачатку можна і не пераводзіць усё на беларускія рэйкі, хаця б нешта. У футболе ж БАТЭ не за адзін дзень ачкі набірае — гэта праца цягам сэзону. А так атрымоўваецца як у анэкдоце пра габрэя, які абяцаў, што яго дзеці будуць есьці толькі шакалядныя цукеркі. Ня трэба адразу шакалядныя, можна і карамэлькі. А наконт разважаньняў узімку, то, як казаў Эд Старк з «Гульняў Тронаў»: «Зіма блізка, але хацелася б канкрэтыкі ўжо зараз».

Міхаіл Дземянчэвіч працягвае:

«Можам таксама адзначыць, што ў Лізе чэмпіёнаў УЭФА мы выкарыстоўваем трансьлітэрацыю зь беларускага варыянту правапісу прозьвішчаў гульцоў, а таксама часткова вядзем афіцыйныя старонкі ў сацыяльных сетках на беларускай мове. У будучыні мы не выключаем магчымасьці пашырыць выкарыстаньне беларускай мовы ў жыцьці клюбу, улічваючы і Вашы прапановы.

Са свайго боку хацелі б падзякаваць вам за ідэі, выказаныя ў Вашым лісьце, і пажадаць посьпехаў у важнай справе папулярызацыі беларускай мовы і культуры».

Тое, што трансьлітэрацыя прозьвішчаў гульцоў БАТЭ ў Эўракубках робіцца зь беларускай мовы, можна толькі вітаць, гэта добры крок і паказвае, што беларуская мова магчыма і ў нацыянальным чэмпіянаце. Можна было б яшчэ параіць, каб была ня проста трансьлітэрацыя, а прозьвішчы пісаліся беларускай лацінкай — гэта цалкам адпавядае як беларускім моўным нормам, так і правілам УЭФА.

Вядзеньне сацыяльных сетак часткова па-беларуску таксама добры крок, хоць, праглядаючы гэтыя сацсеткі, беларускамоўных запісаў за апошні час я не сустракаў.

БАТЭ магло б браць прыклад са свайго капітана, найлепшага гульца каманды і аднаго зь вядучых гульцоў нацыянальнай зборнай Беларусі Віталя Радзівонава, які і па-беларуску не саромеецца размаўляць, і вышыванку не цураецца адзець. Сапраўдны беларус!

*Футбольны клюб «Дынама-Мінск»*

А зараз — да галоўнага канкурэнта «БАТЭ» у нацыянальным чэмпіянаце. Сёлета дынамаўцы прадстаўляюць Беларусь у другім па значнасьці эўрапейскім кубкавым турніры — Лізе Эўропы. Як у іх зь беларускай мовай і культурай?

Вось што паведаміў прэсаташэ ФК «Дынама-Мінск» Васіль Князюк:

«У футбольным клюбе „Дынама-Мінск“ з павагай ставяцца да дзяржаўнай мовы — беларускай! Нашы заўзятары даўно і рэгулярна афармляюць трыбуны банэрамі на беларускай мове. Клюб таксама прыкладае намаганьні па больш шырокім выкарыстаньні беларускай мовы.

# Як зь беларускай мовай у БАТЭ і менскага «Дынама»? Працяг

Нашы прадстаўнікі ніколі не адмаўляюць і ахвотна даюць інтэрвію беларускамоўнай прэсе. У дні матчаў на вучэбна-трэніровачных зборах афіцыйны твітэр клюбу вядзе тэкставыя трансьляцыі матчаў непасрэдна на беларускай мове, што было заўважана і ўхвальна ўспрынята заўзятарамі як мінскага „Дынама“, так і аматарамі футболу ў нашай краіне».

Наогул, адчуваецца, што ліст — не адпіска ці канцылярршчына, а пісаўся з душой. Адразу напрошваецца песьня Ляпіса Трубяцкога на словы Янкі Купалы «Ня быць скотам!». Відавочна, дынамаўцы хочуць падтрымліваць беларускую мову і культуру, няхай сабе і павольнымі крокамі. Што тычыцца фанатаў, то яны, як і большасьць беларускіх фанатаў, для себе прыярытэты ўжо расставілі — нацыянальная мова і культура ў іх на першым месцы, за што ім вялікая падзяка і пашана. З гэтых воінаў сьвятла, што падтрымліваюць родныя каманды на стадыёнах і па-за іх межамі, негледзячы на перашкоды шэра-чорна-крапавага колеру, адміністрацыі маглі б браць прыклад, культываваць беларускую мову на клюбным узроўні, падтрымліваць сваіх фанатаў ва ўсім, не забываючы аб тым, што яны таксама частка каманды.

Далей Васіль Князюк працягвае:

«Не прайшла незаўважанай у беларускіх СМІ ініцыятыва клюбу стварыць беларускамоўную вэрсію сайту „Дынама-Мінск“. Такая праца вядзецца. Вельмі спадзяемся самым бліжэйшым часам парадаваць нашых заўзятараў запускам беларускамоўнай вэрсіі сайту!

Дзякуем вам за ўвагу да беларускага футболу і да мінскага „Дынама“. 26 красавіка ў матчы 5 туру чэмпіяната Беларусі мінскае „Дынама“ праводзіць матч у Гомелі. Будзем рады бачыць Вас на трыбунах стадыёна!»

Тут я магу сказаць, што «Дынама» сваё слова трымае — клюб сапраўды запусьціў беларускамоўную вэрсію сайту. Больш за тое, гэта адзіны клюб беларускай Вышэйшай лігі, які мае беларускамоўную вэрсію. Беларускамоўную вэрсію мае яшчэ і мазырская «Славія», якая ўзначальвае турнірную табліцу Першай лігі, і ў наступным годзе таксама будзе гуляць у «вышцы». Хочацца спадзявацца, што беларускамоўныя вэрсіі пастулова пачнуць з'яўляцца і ў іншых.

Адметнае ў дынамаўскім сайце і тое, што ніводная з моваў не выбіраецца пры заходзе на старонку па змоўчваньні — на першай старонцы ў чытача ёсьць магчымаць выбраць, на якой мове ён хоча чытаць навіны на сайце, і толькі пасьля гэтага трапляе на галоўную старонку. Вельмі цывілізаваны падыход, прыняты ва ўсіх цывілізаваных краінах, якія маюць некалькі дзяржаўных моваў.

Што да запрашэньня наведаць матч у Гомелі — то я яго цалкам прымаю. Больш за тое, я прыкладу намаганьні, каб адна зь дзьвюх беларускамоўных праграмак ФК «Гомель», што выйшлі ў гэтым сезоне, была якраз да гульні з «Дынама-Мінск».

У наступных запісах вы даведаецеся, як зь беларускай мовай у хакейных і гандбольных клюбаў, якія выступаюць на міжнародных турнірах.

*Ігар Случак*

# 16-гадовы школьнік з Жыткавічаў падазраецца ў жорсткім забойстве ўласнай маці

***Жыткавіцкім раённым аддзелам Следчага камітэта распачата крымінальная справа па ч. 1 арт. 139 (забойства) Крымінальнага кодэкса РБ па факце выяўлення ў сваёй кватэры жанчыны з прыкметамі гвалтоўнай смерці.***

Пра гэта паведамляе прэс-служба СК раніцай у панядзелак.

Паведамленне пра выяўленне трупа паступіла ў праваахоўныя органы ад мужа забітай. Следча-аператыўная група, якая прыбыла на месца здарэння, правяла агляд кватэры, падчас якога былі канфіскаваныя прылады злачынства, скрываўленае адзенне падазраванага і іншыя прадметы, якія маюць доказнае значэнне.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку Жыткавіцкага РАУС на працягу некалькіх гадзін затрымалі непаўналетняга.

Устаноўлена, што 28 лістапада прыкладна ў 15.30 11-класнік, знаходзячыся ў кватэры, у ходзе сваркі са сваёй маці нанёс ёй не менш за пяць удараў кухоннай сякеркай у галаву і не менш за дзесяць удараў нажом у вобласць грудной клеткі і брушной поласці. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў 39-гадовая жанчына памерла на месцы здарэння. Падазраваны змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. Ён прызнаўся ў зробленым. З яго удзелам праведзена праверка паказанняў на месцы здарэння з выкарыстаннем відэазапісу.

Вырашаецца пытанне пра абранне да яго меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

*"Наша Ніва"*

# За наўмыснае заражэньне ВІЧ рэчыцкай прастытутцы пагражае да 3 гадоў

***У Рэчыцы жанчына сьвядома заражала мужчын ВІЧ-інфэкцыяй***

Мясцовая жыхарка нібыта помсьціла мужчынам за тое, што сама заразілася гэтай небясьпечнай інфэкцыяй

Навукоўцы вызначылі месца і час нараджэньня ВІЧ

Калектыў навукоўцаў дасьледаваў узор вірусу імунадэфіцыту чалавека, атрыманы з узораў крыві, узятых у горадзе Кіншаса (сталіца Дэмакратычнай рэспублікі Конга) у 1959 годзе.

1 сьнежня — Усясьветны дзень барацьбы са СНІДам. У Беларусі цяпер 13 200 ВІЧ-інфікаваных. З пачатку 2014 году ўжо зарэгістравана больш за 1300 новых выпадкаў ВІЧ. Лячэньне аднаго інфікаванага ў год дзяржаве абыходзіцца ў 250 даляраў, цяпер лячэньне праходзяць 5 800 чалавек. Зь якімі праблемамі сутыкаюцца беларускія ВІЧ-інфікаваныя і што пагражае за наўмыснае заражэньне ВІЧ?

У сярэдзіне лістапада ў Рэчыцы падчас рэйду па барацьбе з прастытуцыяй была затрыманая 25-гадовая жанчына, у якой ВІЧ і якая сьвядома, ведаючы, што інфікаваная, заражала сваіх кліентаў. Жанчыну зьмясьцілі ў СІЗА, тым больш, што яна неаднаразова прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасьці за прастытуцыю. Сьледчы камітэт завёў крымінальную справу. Жанчына па памяці назвала імёны двух дзясяткаў чалавек, самаму малодшаму зь якіх — 29 гадоў, самаму старэйшаму — 70, распавёў начальнік аддзела па наркакантролі і супрацьдзеяньні гандлю людзьмі Рэчыцкага РАУС Алег Марчык:

«На пытаньне, чаму яна не папярэджвала людзей, што ў яе ВІЧ-інфэкцыя, яна адказвала, што гэта помста за тое, што яе хтосьці заразіў. І яна таксама вырашыла заразіць іншых, такім чынам адпомсьціць».

Рэчыцкія мэдыкі настойліва раяць здаць аналізы на ВІЧ усім мужчынам, якія знаходзяцца ў групе рызыкі. Лекар-эпідэміёляг Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялёгіі і грамадзкага здароўя Валянціна Быкава тлумачыць:

«У выніку разьвіўся ланцужок перадачы ВІЧ. Таму ідзе расьсьледаваньне. Што тычыцца пастаноўкі дыягназу ВІЧ, калі пры лябараторным дасьледаваньні атрымліваецца станоўчы вынік, абавязкова запаўняецца эпідэміялягічная карта, і чалавек папярэджваецца аб крымінальнай адказнасьці ў выпадку заражэньня сваіх палавых партнэраў».

У аднаго кліента рэчыцкай прастытуткі тэст на ВІЧ станоўчы. Астатнія жывуць у страху і перажываньнях.

Намесьнік міністра аховы здароўя Ігар Гаеўскі кажа, што тое самае адбываецца і з хворымі на іншыя інфэкцыі, якія распаўсюджваюцца палавым шляхам:

«Тое самае — пранцы, тое самае — ганарэя, калі чалавек ведае пра свой статус і паводзіць сябе такім чынам. Тут, выбачайце, нічога незвычайнага няма, — гэта жыцьцё, гэта грамадзтва. На жаль, гэта адбылося, але гэта адбываецца і пры іншых інфэкцыях, і з гэтай зьвавай даводзіцца сутыкацца, лякалізоўваць і далей праводзіць прафіляктычную працу, каб такое не паўтаралася. Цяпер гэта здарылася ў Рэчыцы, але здараюцца такія эпізоды ня толькі ў Рэчыцы».

Рэчыцкай жанчыне пагражае да трох гадоў зьняволеньня. З пачатку году — гэта ўжо чацьвертая крымінальная справа, распачатая за наўмыснае заражэньне ВІЧ-інфэкцыяй. Але ў міліцыю зьвяртаецца толькі адзін са 100 заражаных ВІЧ. Бо дагэтуль у грамадзтве захоўваюцца стэрэатыпы, што інфікаваныя людзі небясьпечныя для іншых.

Яўген Сьпявак са Сьветлагорску на працягу 8 гадоў ачольвае «Беларускую супольнасьць людзей, што жывуць зь ВІЧ». На яго памяці было шмат выпадкаў дыскрымінацыі, звальненьня з працы такіх людзей. Пра гэтыя выпадкі ў арганізацыі ведаюць, але...

Ніводнага выпадку нам не ўдалося абнародаваць, давесьці да суду, адстаяць правы чалавека — менавіта таму, што самі людзі з-за боязі адмаўляюцца

«Але праблема ў тым, што нават у тым выпадку, калі людзей звальнялі з-за іх статусу (зразумела, зь іншых падставаў), мы не маглі нічога зрабіць, бо неабходная заява самога чалавека зь ВІЧ. А практычна ўсе людзі, што жывуць зь ВІЧ, асьцерагаюцца, што як толькі яны напішуць заяву, пра іх статус стане вядома шырокім колам. Ніводнага выпадку нам не ўдалося абнародаваць, давесьці да суду, адстаяць правы чалавека — менавіта таму, што самі людзі з-за боязі адмаўляюцца», — кажа Яўген Сьпявак.

За свае 18 гадоў зь ВІЧ Яўген дзясяткі разоў сутыкаўся з прыкрымі сытуацыямі, яму нават давялося пераехаць жыць з маленькага гарадка ў Сьветлагорск. Цяпер свой статус ён не хавае. Але працягвае

## За наўмыснае заражэньне ВІЧ рэчыцкай прастытутцы пагражае да 3 гадоў. Працяг

сутыкацца з непрыемнымі дробязямі. Прычым, часьцей за ўсё, з боку саміх мэдыкаў:

«У мяне жонка ня ВІЧ-інфікаваная, і пэрыядычна, раз на паўгода яна правяраецца — усё ж такі мы жывем разам. Яна чарговым разам прыйшла ў паліклініку, у ананімны кабінэт, каб здаць кроў на аналіз. Ёй кажуць: «Не, так нельга, ідзіце, бярыце накіраваньне. Мы былі разам з жонкай. Я заходжу і пытаюся: „А што адбываецца? У ананімным кабінэце вы патрабуеце нейкае накіраваньне, хаця дзяржава гарантуе ананімнае абсьледаваньне?“ Яна кажа: „Валя, дай накіраваньне, няхай жонка Сьпевака ананімна здасьць“. Вы разумееце, што такое рэгіёны? Ясна, што ніхто ня хоча сьвяціцца са сваімі праблемамі».

*Іна Студзінская*

## Медык у Гомелі фатаграфаваў органы пацыентаў падчас аперацый і змяшчаў у інтэрнэт

***Здымкі з'явіліся яшчэ два гады таму, але ўвага да доктара была прыцягнутая толькі цяпер — на фоне аналагічнага скандалу ў Расіі***

Журналісты «Гомельскай праўды» знайшлі шакуючы здымак у сацыяльнай сетцы «Вконтакте». Як можна меркаваць, аўтар фота працуе ў гомельскай лякарні. Падчас аперацыі ён рабіў здымкі пацыента і выкладаў у інтэрнэт.

Пры гэтым аўтар здымкаў яшчэ і задаў віртуальным сябрам пытанне: «Адгадайце, які орган». «Гомельская праўда» піша, што ў яшчэ адной сетцы — Інстаграм — ёсць яшчэ некалькі здымкаў, зробленых падчас аперацыяў. Малады доктар выкладае іх з хэштэгамі — #аперацыя #ЦРБ #беларусь.

Юрысты кажуць, што гэта парушэнне Закона «Аб ахове здароўя», бо дактары абавязаныя захоўваць лекарскую таямніцу.

*"Гомельская праўда"*




Да Інстаграма



## У Рэчыцы расіец спрабаваў забіць сужыцельку

У Рэчыцы 2 снежня ў 09:30 у сваім доме 64-гадовы мужчына ў сварцы спрабаваў забіць 55-гадовую сужыцельку. Жанчына з колата-рэзанымі ранамі шыі і чэрапна-мазгавой траўмай шпіталізавана ў лякарню. Абодва грамадзяне Расіі, пенсіянеры. Падазраваны затрыманы. Пра гэта паведамілі ў МУС Беларусі. Узбуджана крымінальная справа па ч. 1 арт 14, 139 КК

*telegraf.by*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Снежань 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva
**Вольга Пыхава:** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA